*Разблытайма таямніцы!*

# Скарб думак

**№ 8.**

ПАНЯДЗЕЛАК
15
СНЕЖНЯ
2003 ГОДА

*Незалежнае рознабаковае выданне*

21 радок.

Сярод беларусаў абмяркоўваюцца праблемы штодзённага выжывання (недахопу грошаў на ежу, кватэрную аплату; перагружанасці грамадскага транспарту,...), правоў чалавека ў краіне, змяншэння росту насельніцтва, роднае мовы і развіцця нашае культуры, арышт Садама Хусэйна як галоўная сусветная навіна ўчарашняга дня...

На фоне гэтых падзеяў вымагаюцца беспадстаўныя прэтэнзіі свецкіх уладаў Гарадзеншчыны на дэмантаж помніка Вялікай жанчыне XX ст. Ларысе Геніюш, які быў адчынены і асвечаны 29 лістапада сёлета ў Зэльве.

У гэтым нумары „Скарбу Думак" працягваюцца друкавацца вершы Вялікай паэткі (пачатак у папярэднім нумары). Тут змяшчаюцца таксама некаторыя матэрыялы, прысвечаныя Жанчыне, якая жыла, жыве і будзе жыць дзеля Беларусі.

Міхась Лебедзь

## Siabry, Spadary, Panovie,

*Kali Vas cikaviać padziei Mieńsku, zaŭvažcie nastupnamu:*

Z Listapada 27 dnia pa adresie **Varvašeni 8** ekspanujecca vystava tvoraŭ žyvapisu mastaka Alesia Cyrkunova "Rastancy Času" jakaja adbivaje ŭ farbach i formach prajavy losu krainy i čałaviečyja postaci ŭ śviecie minułaha i sučasnaha. Bolš jak 30 karcinaŭ składajuć bukiet liryki, ramantyzmu i trahizmu. Aproč suboty i niadzieli prychodźcia a 16-17 hadzinie ŭ łuby dzień tydnia.

Dnia **17snieźnia** a **17:30** projdzie sustreča z aŭtaram tvoraŭ, na jakoj pan Cyrkunoŭ raspaviadzie pra svaje tvory i adkaža na Vašyja pytanni. Zaprošanymi haściami sustrečy buduć muzyki: *dudar* – pan Uladzimir Puzynia i panič Paval Kijaŭlakis, jaki zahraje na hitary klasičnyja i madernovyja tvory.

**Daviedki:**

t. 2484072 *panič Paval*

e-mail : padziei@tut.by

**Zastava prošma dałučacisia!**

http://padziei.at.tut.by

На 4 старонцы гэтага нумара „Скарбу Думак" увесце правільны назоў артыкула такі!

## Вялікай паэтцы прысьвячаецца

# ЛАРЫСА ГЕНІЮШ

## 9.VIII.1910 - 7.IV.1983



*О Беларусь, мой край стары і слаўны,*
*мой горды лёт, мой сэрца кожны стук,*
*я волі не вымольвала ў тыранаў,*
*дачка Твая, я са змагань і мук.*

*І допыты, і вязніца глухая,*
*гдзе дотык смерці і халодны пот,*
*і долі лёд і тундра ледзяная,*
*клыкі сабак і боль, і штык, і дрот...*

*Даруй жа тым, што мову прадавалі,*
*аб Тваёй волі не хацелі чуць,*
*што за Цябе мячоў не падымалі...*
*Даруй жа тым, даруй і не забудзь!*

Ларыса Геніюш

«ЗЯЛЬВЯНАЧКА».
№7 2003

## Вершы Ларысы Геніюш

### НАШ СЬЦЯГ

*Ня слава Краю, ўздым магутны,*
*на'т ня шумелі мне сьцягі...*
*Заместа іх зьвінелі путы*
*і цёмнай ноччу ланцугі.*

*Заместа водгульля Пагоні*
*яшчэ сягоньня, як крумкач,*
*у набалелым сэрцы звоне*
*жанчыны беларускай плач.*

*Дзявочы твар бляды ад жалю,*
*дзяцей спалоханы пагляд*
*і кроў братоў, што бунтаваліся –*
*я толькі гэткі знаю сьцяг!...*

*За жар душы, што набалела,*
*за сэрца зораны агонь,*
*я, Божа, чуць хоць раз хацела-б*
*шум сьцягу вольнага свайго.*

*Калі Крывіцкая Зямліца*
*мне сэрца гордае саўе,*
*а вольны вецер расшуміцца,*
*на разьвітаньне запяе, –*

*няхай разгорне свае крыльлі,*
*як стораж вечнага жыцьця,*
*хай зашуміць хоць на магіле*
*мне бел-чырвона-белы сьцяг.*

«ЗЯЛЬВЯНАЧКА».




* * *

*Топчуцца коні Тэўтонаў*
*На землях адвечных Прусаў -*
*Ня ўстояць багам паганскім,*
*Скорацца пад прымусам.*

*Пярун ім ня дасьць парадаў,*
*Бясьсільны перад аружжам.*
*Сваю прадыктуе "праўду"*
*Вораг хітры і дужы.*

*Дарма разьбіваюцца хвалі*
*Жалем пакутным аб бераг.*
*Забрала волю народа*
*Чужынская сіла і вера.*

*Вецер, што там блукае,*
*Плача праз ноч, як гусьлі:*
*"Дзе ж ваша мова жывая,*
*Дзе ж вашы песьні, Прусы?"*

*Душа у няволі змоўкла,*
*Сканала ў пакутным лёсе.*
*І болю танюткае ноткі*
*Ад Прусаў не засталося...*

*... Але Беларусы -- ня Прусы!*
*Нашаму слову ня ўмерці!*
*Забралі ў народа волю,*
*Ды мовы не вырваць з сэрцаў!*

*Нам сонца надзеяй сьвеціць,*
*І сэрцы у нас -- ня мякаць.*
*Балтыцкі сірочы вецер*
*Над намі ня будзе плакаць!*

*Мы, Беларусы -- ня Прусы,*
*Уратуем сябе ад згубы,*
*Пакуль наша горла пракусяць,*
*Паломяць крывыя зубы!*

*Уратуем роднае слова,*
*Не, мы ня Прусы, ня Прусы!*
*Нам не сканае мова*
*Рэхам апошнім на вуснах!*



## Верш

**НІШТО ТАК НЯ МІЛА.**

*Нішто так ня міла, як хатні агонь,
што сэрца астылае грэе.
Нішто так ня міла, як родны загон,
што сам калісь хлебам засеяў.*

*Нішто так ня міла, як бацькавы кут,
як гул калаўроткаў у вечар;
як гоман вясёлы цапоў на таку,
як дзедава казка ля печы...*

*Нішто так ня міла, як песьні у нас,
як прадзедаў сівы абычай,
аквечаны ў покуці Божы абраз
і Маці Сьвятое аблічча.*

*Як мілы, вясёлы дыван на краснох,
што тчэ у задуме дзяўчына; –
румяняцца шчокі манлівай вясной,
а рукі — як бель палатнінаў!*

*Пагляне, а вочы — як возера дно! –
магло-б у іх сэрца ўтапіцца,
запутацца ў косы, што русым прадном на
плечы сплываюць крыніцай.*

*Нішто так ня міла, як шнур нашых хат,
гасьцінныя нашы парогі,
і вербы, што сталі зялёныя ў рад
ля стрункай, далёкай дарогі.*

*Нішто так ня міла, як сівы курган,
як славы мінулай ўспаміны;
калі не шкадуюць нам ворагі ран –
пацешаць ў цяжкую хвіліну.*

*Нішто так ня міла, як родны наш сьцяг,
як нашы дзядоўскія гоні;
нішто так ня міла, як тое дзіця,
што сэрцам вітае Пагоню!*

*Нішто так ня міла, як чыны братоў,
ахвярным акрылены ўздымам;
нішто так ня міла, як моладзь ў радох,
як нашы байцы за Радзіму!*

**Ларыса ГЕНІЮШ**

«ЗЯЛЬВЯНАЧКА». №7 красавік 2003



# ПЕРАМАГАЕ СІЛА ДУХУ

**Зянон Пазьняк,**
«Беларускія ведамасьці» №5(15)/98.

**Калі** мы азіраемся ў глыбіню нашай гісторыі XX стагоддзя, у пакутлівае і сьветлае нашае беларускае адраджэньне, мы бачым шмат магутных асобаў: змагароў і паэтаў, якія сымвалізуюць сабой цэлыя зьявы і цэлыя эпохі. Але кожнаму часу бліжэй нехта асаблівы, нехта той, хто пераклікаецца з намі.

Тым, якія пакутуюць і змагаюцца з ганебным антыбеларускім рэжымам, найбольш адклікаецца верная і непахісная, незабыўная *Ларыса Геніюш. 9-га жніўня Дзень яе нараджэньня.*

У савецкім канцлягеры, калаючы вечную мерзлату, яна пісала вершы пра Бога і Беларусь. Духам сваім яна ўзвышалася над лягернай ноччу, уздымала веру і моц у вязьняў — сваіх землякоў. За вершы — кара. Але тым ня менш іх чыталі ў лягеры ўсе беларусы. Гэта яны вынесьлі іх на свабоду ў сваёй галаве, у памяці, калі настаў для ўсіх час вызваленьня.

Вызваліўшыся зь лягеру, пасьля хрушчоўскай «адлігі», Ларыса Геніюш пасялілася ў акупаванай праз бальшавікоў Беларусі ў роднай сваёй Зэльве. Яна не прызнала савецкі рэжым да скону, не прыняла савецкага грамадзянства, не ўступіла ў савецкі «саюз пісьменьнікаў». Яна нікога не баялася. ні перад кім не паніжалася, і вершы яе былі вольнымі.

Тады яна была адна. Бальшыня тых, што лічылі сябе разумнымі, супрацоўнічалі з камунай, пісалі і лісьлівілі. Але ў памяці і творчасьці засталася яна. Яе вершы чытаюць лепшыя людзі, яе вершы маюць значэньне і сэнс, яе вершы ёсьць.

Ад разумнікаў засталася чорная дзіра савецкай літаратуры — небыцьцё, змарнаваная творчасьць.

Ларыса Геніюш адна патрапіла змагацца з савецкім рэжымам. Яна была знакам *Свабоды і Веры* ў Беларусі. Яе дом, яе асоба былі пад наглядам КГБ. Хто любіў і верыў, той ступаў у гэты дом. Хто скарыўся бальшавікам, спадзяваўся на іхнюю сілу і доўгае існаваньне, той яго абмінаў. Ён і сёньня мінае яго, нібы сьляпы, блукаючы ў цемры.

Гэтай сьветлай жанчыне сілу дала ***Беларусь***, дарагі вобраз ***Бацькаўшчыны***, у якой і дзеля якой яна прыйшла на сьвет. Яна, нібы вежа, што стаіць на гары, узвышаецца над памяцьцю цэлага пакаленьня. Чым далей аддаляемся мы ад яе ў навакольлі, тым больш вырастае яна ў краявідзе, тым больш узвышаецца моцная постаць.

# Малітва за Ларысу Геніюш

**Магутны Божа!** Вялікі табе дзякуй, што даў ты нам незвычайнага чалавека ў вобразе нашай зямлячкі Ларысы Антонаўны Геніюш, дапамог ёй любіць заўсёды людзей, хоць не заўсёды яны плацілі тым жа, дапамог любіць родную Беларусь, змагацца за выжыванне роднай мовы.

*Благаславенны край наш, ад азёраў сіні,
Лугоў раздолле, ды шырокі стэп,
Сынам даючы жыццё жанчыны
І нівы, родзячыя хлеб.
Адвечныя шляхі маёй Айчыны,
Мячы і кнігі Белае Русі,
І гарады, дзе родзяцца Скарыны,
Сялібы, скуль выходзяць Кастусі.•*

**Святы Ойча!** Нізкі табе паклон за тое, што даваў ёй сілу быць моцнай, вернай той клятве маладой беларусачкі, якая яшчэ ў юнацтве дала слова застацца адданай крывіцкай зямлі, існаванне якой адмаўлялі і царская Расія, і Польшча, усходнімі крэсамі якой мы з'яўляемся, а пасля так змагалася са сталінскім рэжымам, ніколі не прыстасоўваючыся, не ідучы на кампрамісы.

*Калі цябе, мілы, краіна пакліча
За родны змагацца парог,
То суму не будзе ў мяне на абліччы,
І страху не будзе ў мяне ў грудзях.
Ты пойдзеш у бой, а я плуг накірую,
Каня напаю, накармлю,
І так абаронім, засеем, збудуем
З табою краіну сваю.•*

Табе наша падзяка, Усявышні, што ты прыняў душу нашай Ларысы Антонаўны ў рай, бо, можа, грэх так гаварыць, але мы не сумняваемся, што яна там, бо тое пекла на свеце, магчыма, і лягчэйшае за сталінскае. Відаць, нячысцікі з таго свету не заставяць жанчыну лезці ранняй вясной у ледзяную ваду паўночнай ракі, каб распіхваць заторы з бярвенняў. Магчыма, самая нячыстая сіла не прыніжае так людзей рознымі шмонамі, допытамі, вобыскам.

*Магутны Божа! Уладар сусветаў,
Вялікіх сонцаў і сэрц малых.••*

Дапамажы выжыць нашай непаўторнай беларускай мове, за якую пакутавала, якую з гонарам абараняла ад розных ліхадзеяў Ларыса Антонаўна.

Яе гэтыя непаўторныя словы:

*Матчынай мовай, багатай і слаўнай,
Што ў скарбах народа, бы фонд залаты,
Не аддавайце бяздумна, бясспрэчна,
Не прадавайце святога, браты.
Сёння на пласе родная мова.
Вырваць жывую належыць з агню.
Слова "кахаю" – слабое слова,
Мужнае слова – "абараню".•*

**Святы Ойча!** Шануй яе душу, бо яна вельмі шанавала Цябе пры жыцці, збірала ўсе лепшыя словы, каб славіць Цябе. **Амінь!**

Жыве Беларусь!

***Ірына Генюш.***

Аўтары вершаваных радкоў:
• Ларыса Геніюш.
•• Наталля Арсеннева.

